Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 20 730.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ

Пятніца, 5 чэрвеня 1998 г. № 59 Кошт свабодны

**СВАБОДА**

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Беларуска-расійскі спіртовы скандал

**Чыноўнікі б'юцца над новай прэзідэнцкай задачай аб павелічэнні ролі дзяржавы ў вытворчасці і продажы алкагольных вырабаў. Гэта не першая спроба ўпарадкавання самай прыбытковай галіны нашай эканомікі. Ад папярэдніх мераў эканоміка ўжо моцна захмялела.**

У 1995—1996 гадах з Расіі ў Беларусь была завезеная значная колькасць збожжа (каля трох беларускіх ураджаяў) для перапрацоўкі на спірт. Паводле ўмоваў здзелкі, большая частка зерня трапляла ва ўласнасць нашай краіны. Выраблены спірт павінен быў вярнуцца ў Расію. Чыноўнікі (як у нашых абласцях, так і ў Мінску) хутка сцямілі, што на чужым спірце можна «пагрэцца». Яны стварылі шэраг структураў — дзеля «ўпарадкавання і паскарэння перапрацоўкі» збожжа. У выніку з'явілася больш блытаніны, і падатковая інспекцыя пачала арыштоўваць расійскі спірт. З гэтага часу спыніліся пастаўкі ў Беларусь збожжа дадатковага «ўраджаю».

А збожжа не хапае. Нават на нядаўняй нарадзе ў прэм'ер-міністра ставілася мэта забяспечыць беларускія прадпрыемствы высакаякасным збожжам для вытворчасці спірту. Дэфіцыт збожжа адбіўся і на вытворчасці мяса птушкі (на птушкафабрыках не хапае кармоў). Пагоршылася якасць хлебапрадуктаў.

Чыноўнікі, дарваўшыся да алкаголю, пайшлі далей і стварылі спецыяльную камісію пры Савеце бяспекі, якая сабралася рэгуляваць вяртанне спірту ягоным гаспадарам у Расіі. Аднак падатковая інспекцыя па-ранейшаму не спяшаецца вызваляць з палону расійскі спірт.

Цяпер беларускія спіртзаводы затараныя спіртам. Тым часам расійскія пастаўшчыкі зерня практычна збанкрутавалі, бо ўкладзеныя ў зерне грошы за два гады абясцэніліся.

Беларуска-расійскі спіртовы канфлікт можа набыць градус міжнароднага скандала. Падатковая інспекцыя Баранавіцкага раёна на працягу двух гадоў трымае пад арыштам каля 200 тонаў спірту, які належыць расійскаму міністэрству абароны. Вяртаць «гаручае» ў Расію ніхто не збіраецца. Па звестках нашых крыніцаў, расійскі бок рыхтуе іскавую заяву ў міжнародны арбітражны суд, каб спагнаць з Беларусі каля 500 мільёнаў новых расійскіх рублёў (гэта больш за 80 мільёнаў доляраў). Менавіта на такую суму расійскае міністэрства абароны ацаніла нанесены ўрон. Без спірту тугавата давядзіцца ўсёй арміі Расіі, а асабліва авіяцыі, ракетным войскам і флоту. Рукамі падатковай інспекцыі беларускія ўлады арыштоўваюць чужы спірт па любой падставе.

Следчы камітэт міністэрства ўнутраных справаў Беларусі разглядае некалькі крымінальных справаў, звязаных з перапрацоўкай збожжа. Вінаватымі збіраюцца зрабіць грамадзянаў Беларусі, якія працавалі ў расійскіх фірмах, а сухімі выйдуць чыноўнікі падатковай інспекцыі. Высветліць лёс гэтых крымінальных справаў не ўдалося, бо следчыя МУС спасылаюцца на «таямніцу следства».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Шум вакол штаб-кватэры СНД

**Учора на брыфінгу першы намеснік міністра замежных справаў Сяргей Мартынаў заявіў, што выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі збіраецца перанесці частку свайго апарату з Мінска пад Маскву.**

Па словах С.Мартынава, планы пераезду *«выклікаюць трывогу і з'яўляюцца неправамернымі»*. Пытанне, на думку першага намесніка міністра, *«не ўваходзіць у кампетэнцыю сакратарыята і выканкама СНД, бо закранае раней падпісаныя дакументы»*. С.Мартынаў назваў дыслакацыю штаб-кватэры ў Мінску *«элементам сур'ёзнай важнасці»*.

Тым часам у мінскім апараце Беразоўскага нічога не чулі пра ініцыятыву свайго шэфа. Чамаданы ніхто не збірае. Шуміцы толькі паўнамоцны прадстаўнік Беларусі пры СНД Сяргей Посахаў: па сваёй ініцыятыве ён склікаў прэс-канферэнцыю і ў той жа дзень далажыў пра каварныя планы Беразоўскага Лукашэнку.

Прэзідэнцкае акружэнне нервуецца нездарма. Перавод нават часткі апарату СНД з Мінска будзе кепскім знакам на фоне міжнароднай ізаляцыі Беларусі. Намеры Беразоўскага беларускі бок збіраецца абмеркаваць нават на сустрэчы з расійскім прэм'ер-міністрам Сяргеем Кірыенкам. У Мінску яго чакаюць 10 чэрвеня. Сам жа Б.Беразоўскі прыляціць у Мінск 15 чэрвеня па справах падрыхтоўкі форума СНД.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## *Сёння — дзень Еўфрасінні Полацкай, святой заступніцы Беларусі*



*Беларускі манах моліцца перад ракай, у якой знаходзяцца мошчы святой Еўфрасінні Полацкай.*

## Царкоўна-вайсковы праект

**Намеснік міністра ўнутраных справаў генерал-маёр Юрый Сівакоў і мітрапаліт Філарэт падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Унутранымі войскамі і Беларускай праваслаўнай царквой.**

Пагадненне прадугледжвае, што ў войску «будуць укараняцца традыцыйныя маральныя нормы і рэлігійныя абрады праваслаўнага хрысціянства». Праваслаўная царква і Унутраныя войскі цяпер будуць выдаваць сумесную газету з назвай «Христолюбивый воин».

*БелаПАН*

## Статкевіч рана радаваўся

**Лідэр «Народнай Грамады» Мікалай Статкевіч атрымаў днямі грозны ліст з Мінскай гарадской пракуратуры.**

Сталічны пракурор Мікалай Купрыянаў паведаміў Статкевічу, што яго ведамства лічыць апраўдальны прыгавор, вынесены судом лідэру сацыял-дэмакратаў за арганізацыю першамайскай дэманстрацыі, «беспадстаўным». Пракуратура накіравала старшыні Мінскага гарадскога суда пратэст і патрабуе новага разгляду справы Статкевіча.

Нагадаем, што пасля дэманстрацыі 1 траўня міліцыя схапіла 11 актывістаў Грамады. Усе яны адседзелі ў прыёмніку да суда па трое сутак. Але суд палічыў, што грамадоўцы закона не парушалі і мелі законнае права ўдзельнічаць у санкцыянаванай уладамі маніфестацыі. Гарадскі пракурор, як відаць, думае інакш.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Севярынца вызвалілі. І адразу саслалі

**Лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец адпушчаны з турмы пад падпіску аб нявыездзе. Месцам знаходжання Севярынца да заканчэння следства вызначаны Віцебск.**

За два месяцы знаходжання галоўнага маладафронтаўца ў следчым ізалятары ўжо здавалася, што не дапамогуць ні газетныя артыкулы, ні пікеты, ні дэманстрацыі ў падтрымку хлопца. Але 3 чэрвеня адбылося тое, што журналісты назвалі сенсацыяй: Паўла Севярынца адпусцілі. Праўда, пад падпіску аб нявыездзе, прычым выслалі яго ў Віцебск да бацькоў. Адначасова тэрміны следства падоўжаныя яшчэ на месяц.

Аднак усё ж — воля. З высвятлення магчымых прычынаў гэтай «міласці» ўладаў і пачалося наша інтэрв'ю з Паўлам, якое ён даў НАВІНАМ па тэлефоне з Віцебска.

— Мяркую, ужо стала зусім відавочным глупства выстаўленых супраць мяне абвінавачванняў. Калі спяваць беларускую песню ў сьвята задзіночання з Расіяй — гэта злачынства, дык што тады гэта за свята? Па-другое, улады збаяліся. Заявы сусветных арганізацыяў, шэсці і мітынгі моладзі ў Мінску, нават жаночыя пікеты ў Дзень абароны дзяцей — усё гэта псавала імідж «спакойнай» сталіцы, які стварае Лукашэнка.

**— Звычайна допыт пачынаецца з прапановы даць добраахвотнае прызнанне. Ты такое чуў?**

— Без гэтага не абыходзілася ніводная сустрэча са следчым Голубевым. «Ты павінен прызнацца сам, ты павінен раскаяцца, няўжо ты не разумееш, што гэта хуліганства...» Не думаю, што следчы гаварыў шчыра. Але ж навошта ён займаецца тым, што яму недаспадобы?

**— Турэмныя ўніверсітэты табе нешта далі карыснага?**

— Безумоўна, псіхалагічную загартоўку я атрымаў. Да таго ж больш пачаў цаніць волю, сяброў і родных. Малайцы яны!

**— Да цябе ў ізалятар даходзілі звесткі пра акцыі падтрымкі?**

— У той жа дзень. Увогуле ізаляцыя турмой — рэч вельмі ўмоўная. Турма не ізалюе ад грамадства, там проста іншы свет, які жыве па сваіх законах. Да палітычных у «Валадарцы» стаўяцца па-асабліваму. Мне ніводнага разу не даваліся сутыкнуцца з варожасцю ні ад варты, ні ад зняволеных.

**— Але гэта быў следчы ізалятар. Ты ўпэўнены, што вытрымаў бы турму?**

— Я не герой, і ўсё ж мяркую, што сілаў і вытрымкі мне хапіла б.

**— Следства працягнутае яшчэ на месяц. Як ты ацэньваеш яго перспектывы?**

— Пакуль нулёвыя. Цяпер выпусцілі, яшчэ месяц памарудзяць — і справу прыпыняць. Каб потым пры зручным выпадку зноў аднавіць і шантажаваць. Напрыклад, восенню, калі палітычнае становішча зноў абвострыцца.

**— Чаму цябе саслалі ў Віцебск?**

— Тут жывуць мае бацькі, і хоць у мяне мінская прапіска, у палітычных мэтах уладам, канечне ж, выгадней трымаць мяне далей ад Мінска. Толькі наўрад ці яны даб'юцца сваёй мэты. У Віцебску таксама можна займацца палітыкай.

**— Як ты сябе адчуваеш?**

— Добра. Крыху трэба падкарміцца на бацькоўскіх харчах — і праблемаў не будзе.

**— Сярод тых, хто сустракаў цябе на волі, была каханая?**

— А як жа!

**— І як вы сустрэліся?**

— Яна дачакалася, пакуль адчэпяцца журналісты, а потым падышла і нешта сказала. Вельмі істотнае.

**— Што кахае?**

— Так, што кахае і будзе чакаць заўсёды, дзе б я ні быў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Беларусаў пастралялі ў Польшчы

**У польскім горадзе Згажэлец, на самай мяжы з Германіяй, на мінулым тыдні злачынцы напалі на групу беларусаў: двое забітыя, трое параненыя.**

Зусім як у дэтэктыўным кіно, вечарам на шматлюдный вуліцы па хлопцах нехта адкрыў агонь з аўтамата. Мінчанін Андрэй Варывончык (1965 года нараджэння) і 23-гадовы жыхар Брэста Сяргей Тараданаў, загінулі на месцы. Двое беларусаў былі сур'ёзна параненыя, аднак цяпер, па сведчанні ўрачоў, пагрозы іхнаму жыццю няма. Яшчэ адзін паранены, відаць, нявекся сябе адчуваў, бо ўцёк з бальніцы да прыезду ў Згажэлец прадстаўніка беларускай амбасады.

Як стала вядома НАВІНАМ, польскія праваахоўныя органы лічаць беларусаў ахвярамі барацьбы паміж крымінальнымі групоўкамі. Бандыты трымаюць пад кантролем мясцовы рынак нямецкіх ужываных аўтамабіляў. Яшчэ нядаўна, паведамілі спецыялісты, Згажэлец кантралявала ўкраінская мафія. Пасля прыняцця на Украіне абмежаванняў на ўвоз аўтамабіляў гэты «бізнес» страціў для ўкраінцаў прывабнасць, і «хлебнае месца» засталося без «гаспадароў». Па словах прадстаўніка беларускага МУС пры амбасадзе ў Варшаве Сяргея Рухлядзева, ахвяры згажэльскага здарэння не далі ўладам ясных тлумачэнняў наконт свайго прыезду ў горад і магчымых прычынаў страляніны.

За апошні час гэта ўжо другі напад на беларусаў у Польшчы: 30 красавіка ў Скернявіцкім ваяводстве загінуў вядомы крымінальны аўтарытэт Казначэеў, прычым забойцы, па словах сведкаў, былі ў паліцэйскай форме.

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**

# Больш «п'яных» даходаў у бюджэт

**Савет міністраў распрацаваў захады па ўзмацненні ролі дзяржавы ў пытаннях вытворчасці і продажу алкагольных і тытунёвых вырабаў. 2 чэрвеня пытанне абмяркоўвалася на ўрадавай нарадзе.**

Асноўная ідэя — яшчэ павялічыць паступленні ад алкаголю і тытуню ў бюджэт, нягледзячы на тое, што яны і цяпер складаюць каля 8%. Як мінімум, плануецца ўвесці абавязковае дэклараванне аб'ёмаў вытворчасці алкаголю, правесці карэкціроўкі гандлёвых нацэнак на карысць паступленняў у бюджэт і гэтак далей.

Гаворка аб дзяржаўнай манаполіі на вытворчасць і гандаль алкаголем, чаго баяліся камерцыйныя структуры, пакуль не ідзе.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Інфекцыйная бальніца рукамі фраў Ангеліны

**Днямі ў Гомель з Нямеччыны прыбылі два аўтамабілі з будаўнічымі матэрыяламі для новай інфекцыйнай бальніцы — на суму больш за 360 тысяч нямецкіх марак.**

Мяркуецца, што ўжо ў наступным годзе новая бальніца прыме першых хворых. «Мае сяброўкі і я проста хочам, каб свет стаў дабрэйшым», — так растлумачыла свае клопаты пра будаўніцтва інфекцыйнай бальніцы ў Гомелі Ангеліна Фратц, жыхарка гарадка Шалькcмюне, прадстаўніца грамадскай арганізацыі «Медыгом» («Медыцына — Гомелю»).

Дабрачынная нямецкая арганізацыя па ўсёй Германіі збірала сродкі на дабудову гомельскай інфекцыйнай бальніцы, будаўніцтва якой «замарожана» ўжо дзесяць гадоў. Справа не скранулася б з месца і цяпер, калі б Ангеліна Фратц не ўгаварыла ўлады ўзвесці будынак і не паабяцала сабраць у Германіі сродкі на ўнутраныя работы.

**А.А.**

# Смецця больш, чым грошай

**У Гомельскай вобласці штогод набіраецца 1 мільён тон хімічных адходаў. З іх толькі 20% перапрацоўваецца, астатняе ідзе ў адвалы.**

Каб утылізаваць усе таксічныя адходы, патрэбны немалыя грошы. Па разліках навукоўцаў, гэта цягне на 1 мільён долараў ЗША, аднак, зразумела, такіх сродкаў у вобласці няма. Праўда, ёсць надзея на два праекты па перапрацоўцы адыходаў вытворчасці Гомельскага хімічнага завода, якія гатовы інвеставаць кітайскія і французскія прамыслоўцы. Але ж гэта справа не аднаго дня. На думку мэра Гомеля А. Якабсона, усё ж асноўная экалагічная праблема — выкіды аўтатранспарту, якія перавышаюць выкіды ўсіх прамысловых прадпрыемстваў, разам узятых.

Пра ўсё гэта ішла гаворка на міжнароднай канферэнцыі па праблемах экалагічнай аховы насельніцтва, што днямі адбылася ў Гомелі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# За абразу Лукашэнкі будуць саджаць у турму?

**Падвесці заканадаўчую базу пад сістэму абароны «гонару і годнасці» кіраўніка беларускай дзяржавы даручылі дэпутатам лукашэнкаўскага парламента.**

Паводле законапраекта, Крымінальны кодэкс атрымае новы артыкул аб адказнасці за «знявагу прэзідэнта». Першы раз за такі «подзвіг» будзе свяціць 4 гады турмы ці штраф. У выпадку рэцыдыву пакаранне можа быць павялічанае яшчэ на год. Адміністратыўны кодэкс чакаюць карэкціроўкі, накіраваныя супраць дэманстрантаў, што «карыстаюцца плакатамі, транспарантамі ды іншымі сродкамі, змест якіх прыніжае гонар і годнасць прэзідэнта Беларусі». Іх будуць караць штрафамі ў памеры ад дваццаці да ста мінімальных заробкаў або арыштам да 15 сутак. (На сённяшні дзень сто мінімалак, ці 25 мільёнаў рублёў, — гэта гадавы даход сярэдняга беларуса).

Змены прадугледжваецца ўнесці і ў закон «Аб прэзідэнце». Каб вызваліць Рыгоравіча ад неабходнасці самому займацца зборам паклёпніцкіх матэрыялаў і падаваць іскі ў суд, гэтую ганаровую місію прапануецца ўскласці на пракурораў. Пракуроры ж будуць і крымінальныя справы заводзіць, калі палічаць, што знявага прэзідэнта падпадае пад крымінальную адказнасць. З асаблівай пільнасцю пракуроры пачнуць чытаць газеты і сачыць за электроннымі СМІ. Бо, згодна з папраўкамі ў закон «Аб друку», крытыка прэзідэнта будзе значна абмежаваная.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Сталічныя прапагандысты

**Мінгарвыканкам прэтэндуе на ролю цэнтра прапаганды палітычных і эканамічных мерапрыемстваў прэзідэнта. З гэтай мэтай у Мінску праводзіцца так званы «Адзіны дзень інфармавання насельніцтва».**

Аб выніках правядзення гэтых «дзён» ішла рэч 2 чэрвеня на прэс-канферэнцыі ў Мінскім гарвыканкаме. На працягу года кіраўніцтва Мінгарвыканкама і раёнаў павінна сустракацца кожную 4-ю сераду месяца з «народам». Мэты гэтых сустрэчаў, па словах гарадскіх уладаў, — фармаванне адзінага ўспрымання палітычных і эканамічных мерапрыемстваў уладаў.

Тэматыка зацвярджаецца прэзідэнцкай адміністрацыяй або Мінгарвыканкамам. Сустрэчы праводзяцца як з працоўнымі калектывамі прадпрыемстваў, так і праз ЖЭСы. Аказваецца, кіраўнікі Мінгарвыканкама правялі ўжо з пачатку года 77 сустрэчаў у працоўных калектывах, а кіраўнікі раёнаў — ажно 389.

Улады плануюць прыцягнуць да прапагандысцкай працы «інтэлектуалаў». Дзеля гэтага плануецца рэанімаваць таварыства «Веды». Тэма бліжэйшых палітінфармацыяў — «Ад пазітыўных зрухаў — да ўстойлівага развіцця». Сустрэчы наконт дэфіцыту тавараў у крамах не плануюцца.

**Алесь САДОЎСКІ**



*На здымку: раздача прэзерватываў ва універмагу «Беларусь». Людзі бралі ахвотна. Відаць, ведаюць, што гэта — добры сродак супраць СНІДу. А можа, проста кінуліся на бясплатнае.*

# З Еўропы – кіраўнікі, з Беларусі – апазіцыя

**Еўрапейскі цэнтр па вывучэнні пытанняў бяспекі імя Джорджа Маршала, што знаходзіцца ў нямецкім гарадку Гарніш, з 17 па 31 траўня праводзіў міжнародныя курсы для вышэйшага кіраўнічага складу. Ад Беларусі ў гэтых курсах удзельнічалі прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі — Генадзь Карпенка і Анатоль Лябедзька**

Слухачамі курсаў былі ў сярэднім па 2 чалавекі ад 31 краіны Еўропы і Азіі. З 60 слухачоў толькі Беларусь была прадстаўленая дзеячамі апазіцыі — ад іншых дзяржаваў то былі ў асноўным высокапастаўленыя чыноўнікі і генералы. Першы намеснік міністра замежных справаў Нямеччыны Вернэр Хоер, вітаючы беларускіх гасцей, заявіў: *«Мы вельмі рады бачыць тут прадстаўнікоў дэмакратычнай апазіцыі. Ужо сёння мы павінны ведаць людзей і палітычныя сілы, з якімі ў дэмакратычнай Беларусі мы будзем супрацоўнічаць заўтра»*.

Дарэчы, немцы, бадай, найбольш дасведчаныя ў беларускай сітуацыі. У МЗС гэтай краіны створаны спецыяльны аддзел, які займаецца Беларуссю. *«Гэты аддзел працуе пастаянна і займаецца збіраннем інфармацыі, яе аналізам і прагназаваннем — што сведчыць пра сістэмны падыход Нямеччыны ў адносінах да Беларусі»*, — кажа намеснік старшыні АГП А.Лябедзька.

Па словах Лябедзькі, практычна ўсе ўдзельнікі курсаў былі перакана违ныя ў тым, што ў Беларусі дэмакратыі няма. Адзіным выключэннем стаўся «былы кампартыйны кіраўнік з Казахстана, які ўпэўнены, што распад Саюза адбыўся на ягонай кар'еры, і таму ён прыхільна ставіцца да Лукашэнкі».

Пры гэтым у многіх удзельнікаў, адзначыў А.Лябедзька, адчуваўся недахоп інфармацыі пра Беларусь. Гэты недахоп нашыя суайчыннікі ўвесь час імкнуліся ліквідаваць: яны пастаянна ўздымалі «беларускае пытанне» падчас дыскусіяў і прыватных кантактаў са слухачамі і дакладчыкамі. *«Такія кантакты былі не менш важнымі за самі курсы»*, — лічыць А.Лябедзька.

А.Лябедзька і Г.Карпенка правялі сустрэчы з міністрам па справах узброеных сілаў Вялікабрытаніі Джонам Рыдам, міністрам абароны Польшчы Янушам Анушкевічам, вярхоўным галоўнакамандуючым аб'яднаных сілаў NATO ў Еўропе Уэслі Кларкам і інш. Пералічаныя асобы былі сярод дакладчыкаў на курсах.

Падчас курсаў сітуацыя ў Беларусі называлася ў пераліку пагрозаў і рызыкаў для еўрапейскай бяспекі — сярод такіх фактараў, як міжнародны тэрарызм, арганізаваная злачыннасць, карупцыя і эканамічная нестабільнасць. Асобнае меркаванне было ў першага намесніка начальніка Генштаба Расіі Валерыя Манілава: ён разглядаў Беларусь *«у рэжыме сістэмы калектыўнай бяспекі СНД»*.

А.Лябедзька адзначыў вельмі высокі прафесійны ўзровень дакладчыкаў. *«Мы атрымалі найбагацейшы інфармацыйны матэрыял пра тое, якой будзе еўрапейская бяспека ў XXI стагоддзі, — сказаў ён. — З улікам гэтага цяпер АГП цалкам здольная распрацаваць канцэпцыю нацыянальнай бяспекі Беларусі. Думаю, такі дакумент будзе падрыхтаваны да канца бягучага года»*. Веру: будзе падрыхтаваны. І што далей?

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Страх перад СНІДам

**13% апытаных сацыёлагамі жыхароў Мінска заявілі, што спынілі б усялякія зносіны з хворым на СНІД сваяком або сябрам.**

Падчас даследавання, праведзенага сацыялагічнай службай «Зеркало», мінчанам ва ўзросце ад 16 гадоў было прапанавана адказаць на пытанне: "Як бы Вы паводзілі сябе, калі б даведаліся, што блізкі Вам чалавек (сябар, сваяк) з'яўляецца ВІЧ-інфіцыраваным або хворым на СНІД?» 38% рэспандэнтаў адказалі, што пайшлі б самі праверыцца. Амаль трэцяя частка апытаных адказалі, што іх стаўленне да хворага «ніяк бы не змянілася»; сярод іх пераважаюць маладыя людзі ад 16 да 40 гадоў з вышэйшай адукацыяй.

23% рэспандэнтаў «пастараліся б па магчымасці менш сустракацца» з блізкім ім хворым; кожны восьмы апытаны мінчанін заявіў, што ён «спыніў бы ўсялякія зносіны» з хворым на СНІД сваяком або сябрам. Паказальна, што найбольш радыкальнае стаўленне да хворых на СНІД выказваюць мужчыны — 56%.

Толькі 9% рэспандэнтаў адзначылі, што пастараліся б удзяліць блізкаму ім чалавеку, які заразіўся ВІЧ-інфекцыяй, яшчэ больш увагі і клопату. Большасць сярод іх складаюць жанчыны (64%), а таксама асобы ад 16 да 24 гадоў і старэйшыя за 60.

Пры гэтым 18% лічаць, што ВІЧ-інфіцыраваных і хворых на СНІД неабходна поўнасцю ізаляваць ад грамадства.

*БелаПАН*

# Сяляне не хочуць працаваць бясплатна

Вяскоўцаў часта абвінавачваюць у грамадскай пасіўнасці. Пры тым, што заробкі ў калгаснікаў самыя нізкія ў краіне (у сярэднім трохі болей за 1 млн. рублёў). Дагэтуль не было чуваць, каб сяляне актыўна адстойвалі свае правы. Але, відаць, жыццё дапякло і іх.

Нядаўна ў Мінску прадстаўнікі прафсаюза аграпрамысловага комплексу праводзілі пікет. Сяляне патрабуюць ад дзяржавы змяніць парадак спагнання падаходнага падатку і падняць заробкі калгаснікаў хаця б да ўзроўню пражытачнага мінімуму. Вяскоўцы хочуць за сваю вельмі нялёгкую працу мець больш-менш прыстойны заробак.

Канечне, сяляне не жабруюць, бо выратоўвае ўласная гаспадарка, але ж і на дзяржаву яны не хочуць працаваць амаль бясплатна. Хоць Аляксандр Лукашэнка і любіць часта паўтараць, што ў нас, у адрозненне ад той жа Расіі, зарплаты выплачваюцца своечасова, аднак, па некаторых звестках, толькі ў красавіку нявыплаты сялянам склалі 74% ад агульнай сумы. Многія калгаснікі і саўгаснікі не могуць атрымаць сваe мізэрныя заробкі па 2—3 месяцы. Разам з тым яны баяцца пасварыцца і з кіраўніцтвам сваіх гаспадарак, бо без дапамогі калгаса селянін проста не ў стане апрацаваць свой надзел зямлі ці выгадаваць жывёлу. Аднак кожнаму цярпенню ёсць свая мяжа. Нядаўна прафсаюзы папярэдзілі, што, калі ў бліжэйшы час сітуацыя з выплатамі заробкаў у сельскай гаспадарцы не зменіцца, то ўвосень сяляне пачнуць палітычныя выступленні.




*На здымку: прафсаюзныя актывісты выйшлі ў Мінску на пікет.*

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Пішыце мне!

Дарагія чытачы НАВІНАЎ! Буду рады прачытаць ад вас лісты тут, у зняволенні. Мой адрас: 220079 Мінск, вуліца Кальварыйская, 36, УЖ 15/1, ПС/35/21.

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

*Ад рэдакцыі: нагадаем, што Аляксей Шыдлоўскі атрымаў 1,5 года калоніі строгага рэжыму за тое, што пісаў патрыятычныя лозунгі на будынках у горадзе Стоўбцы.*

## Зарплата і міласціна

Відаць, лепш з затрымкай атрымаць зарплату, чым у тэрмін узяць жабрацкую міласціну ў 5 долараў. Наш «всенародно избранный» любіць хваліцца, што зарплату і пенсію ў «ягонай» краіне выдаюць «вовремя», што ён не страляў па сваім парламенце і г.д. Расіяне яго з захапленнем слухаюць: «какой хороший человек!».

Калі б расіяне патурбаваліся хоць трохі паразважаць, то яны вызначылі б, што гэтая яго «вовремя выданная зарплата и пенсия» — блеф! Калі б у Расіі мінімальная зарплата складала ўсяго 5 долараў, то ўрад не меў бы ніякай запазычанасці дый увогуле ніякіх праблемаў з зарплатай і пенсіяй. Я асабіста лепш згадзіўся б пачакаць, але атрымаць зарплату, чым неадкладна атрымаць нешта такое, што можна назваць жабрацкай міласцінай, але не зарплатай.

А наконт «стрельбы по парламенту», дык нашто «всенародному» было страляць, калі ён проста аддубасіў парламентарыяў? У Маскве пацярпелі толькі сцены Белага дома, а ў Мінску ў Авальнай зале пацярпелі галовы, спіны і рэбры парламентарыяў. У Маскве дэпутаты адседзеліся за бетоннымі мурамі і цяпер займаюць важныя дзяржаўныя пасады (напрыклад, Хасбулатаў або Руцкой), а ў нас адным народным выбраннікам давялося ўцячы ад «всенародного» ў эміграцыю, а іншыя пакутуюць у Беларусі, як Антончык, які не можа ўладкавацца на работу нават грузчыкам.

Я хацеў быў прапанаваць расіянам варыянт «Махнёмся не глядя»: вы бераце нашага «всенародного», а нам дайце Ельцына. Але пасля я раздумаўся. Калі «всенародный» дарвецца да ядзернай дубінкі, то пацерпяць ужо не толькі парламентарыі, а ўсё чалавецтва.

Не! Няхай ужо ён будзе ў Беларусі. Мы яго выбралі — нам з ім і пакутаваць.

**Яўген ЛІТВІН**

## Людзі і міліцыянты ў цэнтры Мінска

Шаноўная рэдакцыя!

Я жыву ў самым цэнтры нашай сталіцы, і міліцыі тут заўсёды шмат. У прынцыпе я нічога супраць не маю: ну, сапраўды — трэба, каб быў парадак. Але ж хіба дзеля парадку абавязкова хадзіць па горадзе з аўтаматамі ды сабакамі?

Я ўвогуле не разумею, як можна з аўтаматам на плячы заходзіць у краму, дзе поўна людзей, чэргі, цесната, таўкатнеча? Помню, бацька мой казаў, што раз на год страляе і незараджаная стрэльба; а гэтыя ж ходзяць у поўнай баявой гатоўнасці.

Я не разумею, дзеля чаго цэлыя брыгады міліцыянтаў з сабакамі пастаянна ходзяць па скверы, куды я і многія іншыя маці выходзяць гуляць з малымі дзецьмі. Нядаўна міліцэйскі сабака так перапужаў суседчынага сына, што той некалькі начэй спаць не мог. Такое ўражанне, што міліцыя спецыяльна выбірае месцы, дзе ім нічога не пагражае.

**Ганна ЛАШКЕВІЧ,** *Мінск*

КАДРЫ



*Мінск. Набярэжная Свіслачы. Усе прагульваюцца...*

## Предлагаю референдум

Что-то давно не было у нас референдумов. Предлагаю президенту провести референдум по вопросу восстановления государственной символики.

Ведь бело-красно-белая полоса — непременная часть облачения Патриарха всея Руси. А герб «Пагоня» в 1935 г. тогдашние власти Литвы собирались заменить на герб «Медведь», по той причине, что «Пагоня» — белорусский символ. Так что восстановление символики было бы в русле славянско-православной идеи. (Тем более, что реставрировать СССР Лукашенко, судя по всему, не удастся, а ведь на это он рассчитывал, вводя подправленную БССРовскую символику.)

При поддержке президента успех такого референдума гарантирован. Напомню, что и в 1995 г. против исторической символики проголосовало примерно 49% от общего количества избирателей (75% от тех 65%, которые пришли на выборы).

Ну, а герб с «глобусом Беларуси» и красной масонской звездой, а также цыганский зелено-красный флаг можно было бы оставить в качестве президентских символов и без референдума.

**С.ТУЛОВСКИЙ,** *Минск*

## Набліжаецца час Рэстытуцыі

### *Першая рэстытуцыйная грамата*

*Чалавеку прыстойнаму нічога не можа быць даражэй за свабоду. А няволя так мусіць быць агідная, што не толькі маёмасцю, але і смерцю яе ад сябе адганяць павінен.*

**Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.**

Набліжаецца да свайго бяслаўнага канца прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. 20 ліпеня 1999 года, роўна праз 5 гадоў пасля прыняцця прысягі на Канстытуцыі 1994 года, Аляксандр Лукашэнка стане звычайным грамадзянінам Беларусі.

Народ, абраўшы Лукашэнку прэзідэнтам, заключыў з ім пагадненне і перадаў яму правы на кіраванне дзяржавай на 5 гадоў. Аднак ёсць вялікае мноства сведчанняў таго, што ён груба парушыў гэтае пагадненне.

Такім чынам, народ Беларусі мае права на рэстытуцыю — аднаўленне ранейшага становішча і вяртанне поўні сваіх правоў.

У Беларусі змяніліся палітычныя і эканамічныя рэаліі. Нарадзіліся новыя пласты эканамічна і духоўна свабодных людзей, сфармаваліся асноўныя грамадскія карпарацыі. Аб гэтым сведчыць адкрытае падпісанне Хартыі-97 самымі вядомымі і аўтарытэтнымі прадстаўнікамі беларускай грамадскасці.

Відавочна, што ніякія ўмовы правядзення дэмакратычных выбараў Лукашэнкам не будуць выкананыя. Таму, грунтуючыся на волі і рашучасці аднавіць дэмакратыю, законнасць і права ў Беларусі, вызначаецца наступнае:

1. Ніякіх выбараў, ані прэзідэнцкіх, ані парламенцкіх, а таксама рэферэндумаў пры неабмежаванай уладзе гэтага чалавека — Аляксандра Лукашэнкі, быць не можа. Толькі поўны байкот з боку дэмакратычных сілаў і ўсяго грамадства.

20 ліпеня 1999 года Аляксандр Лукашэнка юрыдычна перастане быць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і стане звычайным грамадзянінам. Кожны супрацоўнік міліцыі атрымае магчымасць яго затрымаць ці збіць дубінкай па яго ж «законах», як затрымліваюць і збіваюць сёння сотні, тысячы мірных грамадзянаў пасля дэманстрацыяў за тое, што яны не рабы, а свабодныя грамадзяне.

2. Кожны, хто за грошы ці пасады пойдзе на перамовы з дыктатарам, той здрадзіць народу. Гэты чалавек назаўсёды зганьбіць сваё імя і ўжо будзе адказваць разам з Лукашэнкам.

3. Усякія вылучэнні адзінага кандыдата ў прэзідэнты — недарэчныя, гэтаксама як прапанова аб новым рэферэндуме. Кажуць, што гэта выйсце з тупіка, — але для каго?

4. Згодна з Канстытуцыяй, пытанне аб прызначэнні прэзідэнцкіх выбараў павінен разглядаць не Лукашэнка, а Вярхоўны Савет — за 5 месяцаў да сканчэння тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта, г.зн. да 20 лютага 1999 года. Кожны дэпутат, выбраны па Канстытуцыі 1994 года, які не прыме ўдзел у працы Вярхоўнага Савета, фактычна стане саўдзельнікам дзяржаўнага злачынства.

5. Вярхоўны Савет павінен да 20 лютага 1999 года прыняць рашэнне аб немагчымасці правядзення ні прэзідэнцкіх, ні парламенцкіх выбараў ва ўмовах дыктатуры і татальнага кантролю з боку Лукашэнкі за сродкамі масавай інфармацыі.

6. 20 ліпеня 1999 года Аляксандр Лукашэнка перастане быць Галоўнакамандуючым Узброеных сілаў. Выкананне з гэтага моманту яго загадаў пацягне крымінальную ці адміністратыўную адказнасць.

Народ! Набліжаецца час Рэстытуцыі!

**Валянцін МАЦКЕВІЧ**

ОБРАТНАЯ СВЯЗЬ

## Вокруг «Брестского мира»

Хочу высказать свои соображения по поводу статьи «Брестский мир» из цикла «Частное мнение гражданина Старикевича». С большинством его мнений и суждений я полностью солидарен. Но тем не менее кое с чем хотелось бы не согласиться.

А.Старикевич склонен считать, что «хозяин Кремля (т.е.Б.Ельцин) в начале 1994 года сдал С.Шушкевича как стеклотару». Позволю с этим не согласиться. Москва не настолько всесильна, чтобы оказывать решающее влияние на перемещения на белорусском политическом Олимпе. Более логична версия снятия С.Шушкевича как следствие его попыток усидеть сразу на двух стульях, подыгрывая и оппозиции в Верховном Совете 12-го созыва, и интересам партноменклатуры, в том числе «клану Кебича». С.Шушкевичу не удалось или не хотелось идти на союз ни с «хозяйственной», ни с «комсомольской» номенклатурой (типа Булахова, Гончара, Лебедько). С.Шушкевичу не хватило политической воли, опыта, интуиции для того, чтобы правильно действовать в той ситуации. Вместо того, чтобы обратиться прямо к народу, поддержать организованный БНФ референдум, С.Шушкевич позволил «размазать себя по стенке» и «замешаться» в коррупции с известным ящиком гвоздей.

Однако, учитывая огромнейшее влияние Москвы, диалог с ней вести можно и нужно, но ставку необходимо делать на Европу и ее структуры в лице Евросоюза, ОБСЕ, Совета Европы, поскольку цивилизованная Европа и США на пороге XXI века не пойдут на признание не избранного демократическим путем президента и назначенного им квазипарламента.

И, наконец, еще одна деталь, которая в статье А.Старикевича вызывает у меня сомнение. Я имею в виду «движение интеллигентного отморозка Явлинского». Что бы кто ни говорил, но именно Явлинский и его фракция не приемлют методов и средств, которыми пользуется Лукашенко в Беларуси для достижения своих целей. Хотя и нельзя утверждать, что Явлинский ратует за белорусскую государственность (в России практически нет политиков, считающих Беларусь независимым государством). Однако из всех влиятельных политических сил России именно «Яблоко» Явлинского в наибольшей степени тормозит процесс инкорпорации Беларуси в состав России, понимая все негативные и опасные последствия такого шага для самой России. Безусловно, нельзя целиком полагаться на так называемых российских демократов, но не контактировать и не сотрудничать с ними было бы глубоко ошибочным.

Сегодня оппозиция в принципе едина в главном — в необходимости возврата к Конституции 1994 года. Если выборы не состоятся, это означает, что Лукашенко и его правительство станут практически «невыездными», а Европа и США просто должны будут признать С.Шарецкого исполняющим обязанности президента Беларуси. Это прямо вытекает из Конституции 1994 г., которая признана Европой и США в качестве единственно легитимного Основного Закона Республики Беларусь. Соответственно, все представительства цивилизованных государств и международных организаций, согласно принципам и нормам международного права, обязаны будут строить свои отношения только с законной властью.

Если следовать логике, режим обречен на крах в ближайшие год-полтора. (Если, конечно, Европа и США будут предельно четко действовать в отношении Беларуси в соответствии с принципами международного права). Контрмеры со стороны режима (референдумы, досрочные выборы в «палаты») при неучастии в них оппозиции изначально будут нелегитимны. Не следует сейчас вести разговоры о выдвижении единого кандидата от оппозиции на будущих президентских выборах. Нужно объединять и наращивать усилия оппозиционных режиму партий, движений и общественных организаций в вопросе возврата в конституционное правовое поле в 1999 году.

Именно такое единство оппозиции при однозначной и твердой позиции Европы и США может смести диктатуру. А выборы нового президента должны проходить в строгом соответствии с Конституцией 1994 г. в конкурентной борьбе, с выдвижением нескольких кандидатов и при жестком контроле со стороны мирового сообщества.

**Павел ЗНАВЕЦ,** *депутат Верховного Совета*

## Теперь он стал начальником...

Стою на днях на автобусной остановке. Весна, солнце жарит. Задумался. Вдруг дружелюбный толчок в спину. Оглядываюсь — щурится мой старый знакомый, бывший сослуживец, теперь такой же, как и я, обездоленный пенсионер.

— Ты куда?

— А ты?

Как и следовало ожидать, оба в больницу. Но, надеемся, еще не в последний раз.

Автобус запаздывает. Вспоминаем былое. Мой собеседник, как и я, начинал с рабочих. Оба заочно окончили вузы. Всю жизнь оставались, что называется, работниками среднего звена. Некоторые наши коллеги, как и мы, пенсионеры, других уж нет. Кое-кто остался на плаву и еще работает.

Нас, пенсионеров, объединяет общая обида. Уволенные из производственного объединения «Беларуськалий» в начале девяностых, мы не получили ничего, в то время как уходящие на пенсию теперь получают разовое пособие по пятьдесят, восемьдесят миллионов и даже больше.

— Захотел я попробовать вернуть свое, — рассказывает знакомый. — Пошел к Н-ву — ты его хорошо знаешь. Сейчас он начальник, и немаленький. Вошел в высокий кабинет, поздоровался. Так и так, говорю. Возьми меня на работу, отработаю несколько месяцев. Уволюсь, получу выходное пособие — и будь здоров. Как он разволновался. Задышал, как паровоз, толстая шея побагровела, как спелая свекла. Нет, говорит, нет-нет-нет! В общем, категорический отказ.

Ну ладно, думаю, на нет и суда нет. Вежливо прощаюсь и выхожу из кабинета. Прохожу мимо миловидной девочки-секретарши к вешалке, снимаю шапку. В этот момент открывается дверь кабинета, а я стою между дверью и вешалкой. Н-в меня не видит и пропитым голосом рычит на секретаршу: «Ты, ... твою мать, чтобы пенсионеров больше ко мне не пускала, ясно?!» Девочка лицо ладонями закрыла, отвернулась...

Потом он как-то встретил меня в магазине, протянул руку, поздоровался. Я ответил тем же. Теперь жалею. Не за себя обидно: жаль девчонку, которую он ни за что оскорбил...

**Семен ДУБРОВСКИЙ,** *Солигорск*

# У вас своя свадьба –

## По такому принципу власти строят отношения с негосударственными субъектами

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**



Недавно мы сообщали об открытом письме студентов негосударственных вузов: студенты обеспокоены тем, что теперь им будут выдавать дипломы не государственного, а специального образца. В связи с этим студенты встревожились за свое будущее, и не без оснований: ходят слухи о негласном распоряжении не брать выпускников со «специальными» дипломами на работу в государственные учреждения. И это вполне вероятно, ибо в полной мере укладывается в общее русло политики властей по отношению ко всему негосударственному.

В политической и экономической сферах это проявляется еще более отчетливо, чем в образовательной.

«Любовное» отношение режима к независимой прессе выявилось давно. Памятное письмо заурядного чинуши, снискавшего общенациональную известность, которое *«в соответствии с поручением Президента»* запрещает госслужащим давать информацию и комментарии негосударственным СМИ — отнюдь не самый вопиющий пример. Однако в данном контексте об этом стоит вспомнить, и вот почему. На получение информации по официальным каналам независимая пресса не очень-то могла рассчитывать и до этого письма. Общение с представителями режима на официальном уровне в принципе имело только одну цель: дать им возможность, ради сохранения объективности, высказать свою точку зрения. Но, оказывается, эта возможность как раз-таки им и не нужна! С другой стороны, государственные СМИ не предоставляют слова оппозиционерам. Таким образом, здесь власти выдерживают тот же принцип: у вас своя пресса — у нас своя; у вашей прессы свой круг людей, с которыми она работает (оппозиционные политики) — у нашей прессы свой круг (представители режима).

То же самое осуществляется в отношении предпринимательства. Еще в первый год своего правления Лукашенко высказывал намерение *«накрепко привязать бизнес-класс к президенту»*. Потом Лукашенко увидел, что это не совсем удается, и, судя по всему, сделал вывод о том, что предпринимателей расплодилось чересчур много. Тогда он произвел на свет тезис о том, что Беларуси достаточно 20 крупных фирм — все остальное предпринимательство как бы не нужно и излишне. В банковской сфере этот тезис уже реализован практически полностью. В остальных — близко к тому: «зеленая улица» открывается только «своим» предпринимателям.

Конечно, когда государство берется решать, сколько должно быть частных предпринимателей и чем они должны заниматься — это на самом деле уже не частное предпринимательство. Но ведь свободную рыночную экономику режим в качестве цели и не рассматривает (а если рассматривает, то разве что в артиллерийском значении слова «цель»). В Германии при Гитлере происходило нечто подобное — нацизм был не менее «рыночным» социализмом, чем теперешний белорусский, и предпринимательство действовало под мощной государственной дланью.

Что касается деятельности политической оппозиции, то особо болезненно власти относятся к уличным акциям. В свое время Лукашенко в запале определил единственное в Беларуси место, где оппозиции разрешается проводить митинги, которые он, в характерной речевой манере, обозначил своеобразным глаголом *«бурлеть»*. Это место — площадка перед Оперным театром в Минске. А вот свои собственные уличные акции режим старается проводить с максимальным размахом, и их чистоту оберегает крайне ревниво. Лидер Молодого Фронта Павел Северинец сидит в тюрьме как раз за то, что на эту чистоту покусился, т.е. посмел поучаствовать в официальном мероприятии на столичной площади Я.Коласа.

Месяц спустя по аналогичной причине власти «наехали» и на социал-демократов, которые, видите ли, дерзнули присоединиться к первомайской демонстрации. Адвокат Вера Стремковская могла сколько угодно распинаться, доказывая, что социал-демократы имели такое же право участвовать в шествии под своими знаменами, как коммунисты-чикинцы, государственные профсоюзы и работники часового завода (последние, кстати, тоже несли свой флаг с часами «Луч»; интересно, зарегистрирована ли эта символика в минюсте?). *«Ансамбль «Крыжачок», который в национальных костюмах шел в колонне, не подавал заявку на участие!»* — убеждала адвокат. А разделять политическую позицию организаторов акции участники вовсе не обязаны — ведь даже лукашенковская «конституция» вроде как гарантирует свободу мнений. В общем, преследование оппозиционеров за участие в официальных мероприятиях представляет собой очевидный абсурд.

Однако кому какое дело до этих правовых заморочек и тем более до подозрительной свободы мнений? Здесь используется тот же подход: у вас свои уличные акции — у нас свои. Чикинцы и госпрофсоюзники — это «наши», а вот социал-демократы — совсем даже чужие. Как, собственно, и все прочие политические партии — от либералов до коммунистов. Впрочем, «свои» коммунисты у режима тоже имеются — это всё те же чикинцы — но дело-то, в общем, не в том, что они коммунисты, а в их отношении к «батьке». Именно на этом основополагающем признаке, а не на каких-то там идейных соображениях, и базируется опознавательная система «свой—чужой» в нашем государстве. Строго говоря, в рамках режима находится только одна партия — партия лукашистов (организационно она, правда, пока не оформлена, но, видимо, это дело недалекого будущего). Все остальные, вне зависимости от идеологических пристрастий, считаются чужими.

Да что там уличные акции?! Между «свадьбами» оппозиции и власти есть различия и посущественней: у каждой из них — своя конституция, свой, с позволения сказать, парламент, свой флаг и герб. Причем чрезмерное увлечение властей системой «свой-чужой» привело к тому, что теперь под бело-красно-белыми флагами выступают люди, которым до переворота это не пришло бы в голову.

По вышеперечисленным приметам можно подумать, что режим своим неприятием превратил негосударственные субъекты в некое «государство в государстве», со всеми необходимыми атрибутами — от вузов до флага. И территорию «своего» государства от этих «иностранцев» он бдительно охраняет. В таком поведении есть что-то детское — уходите, мол, из нашей песочницы. «Забирай свои игрушки, не садись на мой горшок». Впрочем, на самом деле эти действия режима, хотя и действительно смешны, но далеко не так безобидны.

Понятие «опричнина», ставшее символом беззакония, кровавого разгула, тирании и тому подобных «радостей», изначально произошло от совершенно нейтрального слова «опричь» (т.е. «кроме»). Сперва Иван Грозный, по уговору с боярами, просто взял под единоличную власть некоторые земли, на которых, в отличие от земщины (основной части страны), установил особый порядок по своему разумению. Но это только поначалу. А потом — «вы земщина, вам надлежит трепетать да покоряться».

В современной Беларуси размежевание между «государственными» и «негосударственными», с точки зрения режима, имеет характер разделения на «белых» и «черных». Режим не просто не хочет иметь дела с негосударственными субъектами — он выталкивает их на обочину, загоняет в какое-то подобие резервации или гетто (и относится к ним как к обитате-

# «Пацёмкінская вёска» над Нёманам

З гісторыі вядома: калі расійская імператрыца Кацярына II падарожнічала па Дняпры, па берагах паставілі бутафорскія хаты, каля якіх скакалі пад народную музыку сяляне. Царскія вяльможы ладзілі гэты маскарад, каб пацешыць дэспатычную царыцу: маўляў, во як шчасліва жывуць пад яе ўладаю простыя мужыкі. Сёння, калі з гродзенскіх вуліцаў прыбралі святочныя падворкі нядаўняга фестывалю нацменшасцяў, мне чамусьці прыгадаліся менавіта тыя славутыя «пацёмкінскія вёскі». Праўда, замест «самадзержца» аглядаць іх прывозілі чыноўнікаў СНД: во якія ў нас мір-дружба і поўны інтэрнацыяналізм.

Адчуванне штучнай саладжавасці ад свята нацыянальных культур выклікаюць наступныя акалічнасці. У адпаведнай еўрапейскай канвенцыі гаворыцца, што «абарона нацыянальных меншасцяў і правоў ды свабодаў людзей, якія належаць да іх, — неад'емная частка абароны правоў чалавека». Штосьці тут не спалучаецца. Атрымліваецца, што правы чалавека ў Беларусі ўвесь час парушаюцца, але нацменшасці пры гэтым квітнеюць? Прычым урадавыя чыноўнікі хваляцца, што гэткага выдатнага фестывалю нацыянальных культур, як у Беларусі, няма нідзе больш не толькі ў СНД, а нават на ўсім Еўрапейскім кантыненце. Маўляў, там, на Захадзе, наадварот, нярэдка даходзіць да крыві на глебе міжнацыянальных спрэчак.

Рэч, напэўна, у іншым. У Беларусі закансервавалася старая крывадушная ідэалогія. Паводле яе можна было «дзеля інтэрнацыяналізму» ўвесці танкі ў Будапешт і Прагу альбо выканаць «інтэрнацыянальны абавязак» у Афганістане, што каштавала афганскаму народу мільёны жыццяў.

Гэта не перабольшанне. Нам дзесяцігоддзямі ўбівалі ў галовы, што «самая дэмакратычная ў свеце канстытуцыя» дзейнічае ў СССР. Яшчэ ў 1936 г. былі абвешчаныя ўсялякія правы і свабоды, а наступны 1937 г. засведчыў, што чалавечае жыццё не каштуе нічога. Адначасова перад Маўзалеем, гранітнай магілай Леніна, праходзілі маскарадныя шэсці ў фальклорных строях, якія ўвасаблялі «дружбу і шчаслівы лёс народаў СССР». Спачатку рэпрэсавалі асобных грамадзянаў, потым — цэлыя народы.

Можна даць веры нашым чыноўнікам наконт Еўропы: пампезных, паказушных фестываляў, як у Гродне, там не бывае. Там проста праводзяць фальклорныя святы — венецыянскі, напрыклад, карнавал ці іспанскую карыду — без усялякай «ідэалагічнай нагрузкі». Прадэманстраваць усяму свету «мір-дружбу» — мэта рэжымаў, а не дэмакратыяў. Нездарма ж Гродзенскі фестываль гэтак спадабаўся сярэднеазіяцкім пасланцам, якіх прывозілі, каб пахваліцца. Яны нават запрапанавалі пашырыць яго на ўвесь СНД. Маўляў, хай Беларусь становіцца ўплывае на астатніх, дасць «на экспарт» свой інтэрнацыяналізм. Кажуць, найбольш спадабалася свята туркмену, а ягоны «бацька» Туркменбашы, як вядома, кіруе жалезнай рукой направа і налева.

Гасцей з усходу вадзіў па фестывалі на правах гаспадара наш прадстаўнік у СНД палкоўнік С.Посахаў. Ён нават пагутарыў з старшынём беларускага культурнага таварыства ў Польшчы Я.Сычэўскім. Палкоўнік цікавіўся лёсам беларусаў у суседняй краіне, абяцаў быццам бы дапамагчы. Адзін польскі журналіст, пачуўшы пра гэта, шчыра здзівіўся: хіба Польшча ўжо ўваходзіць у СНД? Падобна на тое, што Беларусь сёння пераймае былую месіянскую ролю СССР: Саветы стварылі ўнутры краіны «інтэрнацыянальны рай» і займаліся аб'яднаннем пралетарыяў усіх без выключэння краінаў.

Усё ж гэта заканамернасць: чым больш шуміхі пра дэмакратыю і росквіт нацыянальнасцяў, тым менш самой дэмакратыі. Калі з правамі чалавека праблемаў няма — пра іх не ўспамінаюць. Улады Гродна любяць паўтараць, што ў горадзе пануе «полная справедливость касательно национальных нужд». Але менавіта ў Гродне быў прэцэдэнт: цэлы год беспаспяхова змагаўся ў судах з уладамі і адміністрацыяй школы член Саюза мастакоў Ю.Мацко. Справядлівасці ён так і не дамогся — ягоную дачку перавялі ў рускі клас, скасаваўшы ў школе беларускія класы.



*На здымку: спяваюць беларускія немцы. Паводле статыстыкі, у нашай краіне жыве толькі 3,5 тысячы этнічных немцаў. Аднак яшчэ каля 7 тысячаў асобаў, народжаных у мяшаных шлюбах, лічаць сябе таксама немцамі. Дзейнічаюць Беларускае таварыства немцаў «Адраджэнне», Цэнтр нямецкай культуры і Маладзёжны саюз беларускіх немцаў «Хофнунг».*

Бутафорскія, напаказ дзеянні ўладаў — відавочныя. Нават пры сённяшняй моцнай русіфікацыі 1—2 беларускія класы ў горадзе захаваюцца. Ёсць польскія. З'явіўся грузінскі. Усім народам у нас — добра! Падкрэсліваю — менавіта народам, многім народам. З афіцыйнай прапаганды вакол фестывалю вынікае: у Беларусі больш няма асноўнага, беларускага народа, увогуле адзінага народа Беларусі. Ёсць толькі «народы», і беларусы — толькі адзін з іх. Стаіць побач, напрыклад, з карэйцамі, якіх усяго 1.200 чалавек. Няма ні нацменшасцяў, ні нацбольшасці. Усім — па аднолькаваму падворку: з ручнікамі, гліНянымі збанамі і нацыянальнымі стравамі. Трэба — паставілі, трэба — прыбралі. Прыгожа і эфектна. Як у «пацёмкінскай вёсцы».

Адзін знаёмы паляк падзяліўся са мною ўражаннямі ад убачанага. «Польская школа ў Беларусі, — сказаў ён, — будзе развівацца нармальна толькі тады, калі перастануць зачыняць беларускія класы». А гэта ў сваю чаргу магчымае толькі пры ўмове, што Беларусь павернe ў бок Еўропы, да дэмакратыі. Парве са сваім савецкім мінулым, з русіфікацыяй, ад якой пацярпелі аднолькава ўсе «нярускія» народы і нацменшасці. Тады, калі звернецца да сапраўды братняй еўрапейскай сям'і народаў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

